*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На паўночным беразі Эн, пры Жівэнкур, мы ўварваліся на варожую пазыцію і ўзялі 100 палонных,

У сходні тэатр:

*Фронт Леопольда Баварскаго:* У некаторых пунктах паўночнага фронту крапчэў агонь.

Пры Бродах і на Збручу—вострые артылерыйскіе бітвы. Нашы войскі наступаюць на Хотін. На ўсходзі ад Чэрновіц мы ўзялі Баранцы і заходнюю часць Боян, на Пруце.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* У даліне Сучавы мы адціснулі расейцоў на Радаўц. Вама на Молдаве ўзята. Мы перайшлі цераз Быстрыцу між Лунгай і Бэрэстэнамі.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ЛОНДОН. (В.Т.Б Рэўтэр). Ллойд Джордж сказаў прамову на сходзі, на каторым быў італьянскі міністэр-прэзыдэнт Сонніно і сэрбскі Пасіч. У прамові ён між іншым сказаў:

„Расея цяпер дэморалізована і перэжывае стан раскладу. Калі вы спытаецеся мяне аб палажэньні Расеі, дык я скажу, што яна падобна да падарожнаго, каторы перад самым канцом дарогі ўпаў у глыбокі яр, але мае цьвёрдую волю вылезьці адтуль“.

ЦУРЫХ. Італьянская граніца закрыта для ўселякіх зносін са Швэйцарыей. Гэта, паводлуг швэйцарскіх газэт, першы знак новаго італьянскаго наступленьня на аўстрыяцкай граніцы.

ЖЭНЕВА. (В.Т.Б.). Францускі марскі міністэр, Ляказ, падаўся у адстаўку, а разам з ім і яго памочнік.

БЭРЛІН. (В.Т.В.). Гіндэнбург паслаў імператару гэткую тэлэграму:

„На заходзі першы штурм вялікаго англіцка-францускаго наступленьня адбіт. На ўсходзі, пачынаючы ад 19 ліпня, нашы войскі безупынна ідуць упярод. Чэрновцы ўзяты. Аўстрыя ачышчэна ад ворагоў. Прашу загадаць вывесіць флагі і стрэляць на пабедны салют“.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 2 і 3 жніўня нямецкіе марскіе самалёты атакавалі англіцкую паветровую станцію на астраві Тазосе, у грэцкіх водах. Відаць было вялікіе пажары і сільные узрывы.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіане ізноў затоплены 24.000 тонн.

Ад 1 лютаго да 1 ліпня мы сярэднім лікам траціді ў месяц каля 3 падводных лодак. За гэты час пабудовано ў некольні разоў больш падводных лодак.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак у паўночным поясе блокады: 24.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіане і Паўночным моры нашы падводные лодкі ізноў затапілі 4 параходы і 6 парусьнікоў.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак на паўночным марскім тэатры: 20.500 тонн.

ЛОНДОН. У англіцкіх портах у доках дзеля папраўкі знаходзіцца папсаваных торпэдамі караблёў на 380.000 тонн.

ВЕНА. У начы з 2 на 3 жніўня каля 20 варожых самалётаў атакавалі порт Поля і скінулі каля 80 бомб. Забіты 2 людзей, раненых—12. Бомбы папалі такжэ на ваенные шпіталі.

ВЕНА. 4 і 5 жніўня тут адбываліся перэгаворы між Нямеччынай і Аўстрыей аб раздзелі між імі новаго румынскаго ураджаю.

ВАШЫНГТОН. (В.Т.Б.). Сэнат прыняў рэзолюцію, трэбуючы, каб ваенна-абязаные падданые саюзных дзержаў былі бы ўзяты ў амэрыканскае войско.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.